## Пуцяводныя думкі

Працуй, калі табе смутна — гэта адзіны сродак разагнаць смутак. Працуй, каб не ўпасці ў нуду: нішто так не збаўляе ад маркотнай пустаты, як праца. Працуй, калі табе спадарожнічае поспех: няма другога лякарства супраць „галавакружэння“, апрача працы.

*І. Бехер*

Адукацыя — скарб, праца — ключ да яго.

*П. Буаст*


# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 7 (990) ГОД XX 16 ЛЮТАГА 1975 г. ЦАНА 60 гр.





### МОЙ КРАЙ

*Заварожан я шумам гуллівых ялін,*
*Перазвонам крыніц і панурых лясоў*
*І трымценнем лісця шэраствольых асін,*
*І шаптаннем вусатых ў палях каласоў.*
*Чую пошум травы. Ручайка булькатанне,*
*Чую спевы вятроў над прыціхлым сялом...*
*Гэта ўсё да мяне ад далёкіх славян*
*З малаком мацярынскім у кроў перайшло.*
*Як у іх, у мяне культ прыроды бясконцы,*
*Ўзгадаваў я яго, ў сэрцы вынасіў сам...*
*Абдымаю траву. Усміхаюся сонцу.*
*І цалую ваду. Б'ю паклоны лясам.*

**Уладзімір Ляпёшкін**

## Маладым у нас дарога

Калі мы пакідалі панадворак **Галёнкаў з Лушчы** на Гайнаўшчыне, намеснік начальніка Гайнаўскага павету Вацлаў Цаглярскі, выразна задаволены візітам, заявіў:

— Вось тут можам мы быць упэўнены, што гэтая гаспадарка мае перад сабой добрую будучыню.

Валя — выпускніца Бельскага тэхнікума сельскагаспадарчай бухгалтэрыі. Бойкая. Усе справы, якія адносяцца да іх гаспадаркі, яна афармляе сама ў павятовых установах.

Мікалай — равеснік народнай улады ў нашай краіне — не мае поўнай сярэдняй адукацыі. Закончыў толькі курсы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Але гэта майстар на ўсе рукі. Няма ў гаспадарцы такой работы, якую ён сам не змог бы зрабіць. Цяпер ён заняты пабудовай прычэпа для свайго трактара.

— Купіў я за чатыры тысячы злотых у гайнаўскім ПЗГС-е, — паясняе ён, — зусім разбіты і заіржавелы прычэп, які надаваўся ўжо толькі на пераплаўку, і цяпер вось камбіную, каб неяк гэты жалезны лом пазбіраць у адно цэлае. А пакуль што да трактара падчэпліваю конны воз на гумовых калёсах.

Гэты трактар красуецца на сярэдзіне панадворка, як дарагі, залаты пярсцёнак на пальцы пані Валі. Не ведаю, колькі каштаваў пярсцёнак, але на трактар гаспадар не пашкадаваў амаль 100 тысяч злотых.

— Два гады чакаў я прыдзелу, — гаворыць Мікалай, пяшчотна гладзячы трактар па крыле, як буланага па задзе.

— А таксоўку мы яшчэ сабе таксама купім. Толькі раней пабудуем прасторную, па-сучаснаму абсталяваную абору, каб магчы гадаваць яшчэ болей жывёлы. Гэта мая спецыялізацыя і асноўная крыніца сямейнага даходу.

Азіраюся па панадворку. Сапраўды, драўляны жылы дом і хлявы памятаюць яшчэ даваенны час. Толькі новая клуня вылучаецца сваёй велічынёй. На таку сустракаю Мікалаевага бацьку — Яна Галёнку.

— Калісьці, — гаворыць ён, — нават палавіны гэтай клуні не заклаў бы я сваім дабыткам. Калі я ў 1939 годзе пачынаў самастойна гаспадарыць, збіраў тады нейкіх 15 коп жыта, трымаў 2-3 свінні, каб адну сабе закалоць пад свята, адну прадаць і адну аставіць на развод. Была яшчэ карова з цялём і конь. Цяпер мы ў год здаем па 10-15 свіней, гадуем 3 каровы з цялятамі і тры ялоўкі. Проста верыць не хочацца, што зямлі ў нас зусім не прыбавілася.

— Навозы — вось што! —заяўляе малодшы з Галёнкаў. — Навозы і стараннейшая апрацоўка зямлі...

— Выходзіць на тое, — гаворыць бацька, — што ён ужо разумнейшы за мяне. Дык таму я і перапісаў на яго сваю гаспадарку.

Пані Валя просіць нас у хату.

(Працяг на стар. 3)



*Прадвесне.* *Фота Я. Цялушэцкага*

## Культура ў гміне

### УДАЛЫ ПАЧАТАК

Яшчэ некалькі год таму назад пра сапраўднае культурнае жыццё ў Арлянскай гміне на Бельшчыне гаварыць не прыходзілася. Праўда, дзейнічаў у Орлі хор і невялічкі калектыў струнных інструментаў, давалі яны па пару выступленняў у год, але шырокае дзеянне, якое пабуджала б да ўдзелу ў культурным руху шырэйшыя колы грамадства, у гміне не існавала. Прыкметны зрух у гэтым напрамку наступіў толькі годпаўтара таму, калі гмінны цэнтр культуры ўзначаліла **Ніна Мартыновіч,** а кіраўнікі гмінных установаў і арганізацый сталі адводзіць больш увагі справам культуры.

Будынак ранейшай „святліцы“ калісьці палохаў зрэдку ўваходзячых у яго арлянцаў пааббіванымі тынкамі, вульгарнымі надпісамі і малюнкамі на сценах ды лавамі з паламанымі нагамі. Цяпер супольнымі намаганнямі гміннага ўпраўлення, гміннага цэнтра партыйнай прапаганды і „Руху“ гэты будынак ператворан хоць і не ў люксусны дом культуры, але ў добры набытак культуры. Адноўленыя і памаляваныя сцены аздоблены эстэтычнымі дэкарацыямі, у зале сучасныя элегантныя крэслы і столікі, тэлевізар, магнетафон, праігрывацель, настольныя гульні — не дзіва, што кожны вечар моладзь і дарослыя ахвотна сюды прыходзяць. За сцяной жа — добра працуючая гмінная бібліятэка з невялічкай, але густоўна абсталяванай чытальняй. У будынку ёсць маленькая сцэна, а на ёй нават пражэктары.

Якраз у гмінным цэнтры культуры ў мінулым годзе адбылося шмат цікавых грамадска-палітычных і культурна-асветных мерапрыемстваў. Тут была праведзена вельмі ўдалая сустрэча грамадства з І сакратаром ВК ПАРП у Беластоку **З. Куроўскім,** цікавыя сустрэчы адбыліся таксама з прадстаўнікамі павятовага камітэта ПАРП з Бельска і мясцовымі гміннымі партыйнымі і гаспадарчымі дзеячамі. У Орлю прыязджалі лектар ЦК ПАРП і лектары ВК ПАРП, публіцыст „Трыбуны люду“, пісьменнікі А. Барскі, В. Швед, А. Амільяновіч. На ўсе гэтыя сустрэчы прыходзіла многа людзей з мястэчка і навакольных сёлаў. Гэта ўносіла свежы подых і запал, што пабуджае асяроддзе да актыўнага дзеяння. Таму з такім размахам праходзілі тут усе ўрачыстасці,

(Працяг на стар. 4)



*Яўгеній Класоўскі.*

## Краязнаўчы слоўнік

### Анусін

Вёска ў шасці-сямі кіламетрах на паўднёвы ўсход ад Сямяцічаў, пры шашы Драгічын-Адамава, у вярсце ад правага **берага** ракі Буга. Тут 58 гаспадарак, каля 230 жыхароў.

Несумненна, гэтая мясцовасць здаўна была заселена, як і ўсё Надбужжа, магчыма нават у VII-XIII стагоддзях, калі тут паўсталі і развіваліся два значныя абаронныя і рамесніцка-гандлёвыя цэнтры — Драгічын і Мельнік. Але свой радавод пачынае сённяшні **Анусін** ад славутай уладальніцы горада Сямяцiч і ўсяго іх наваколля — **Анны Ябланоўскай** (1728-1800 г.г.). Яна правяла ў сваіх маёмасцях шэраг прагрэсіўных як на тыя часы **рэформ,** што садзейнічалі ўздыму гаспадаркі і павелічэнню яе даходаў. На месцы сённяшнята Анусіна заснавала **фальварак,** якога „спецыяльнасцю“ была гадоўля быдла ды гарэлачны бровар. З тага часу захаваліся мураваныя з польнага каменя сцены хлява. Фальварку Ябланоўская дала назву, выведзеную ад свайго імя: „Анусін“ — інакш „уласнасць Анны“. Пасля смерці А. Ябланоўскай Анусін пераходзіў з рук у рукі розных уладальнікаў, і, урэшце, недзе ў першай чвэрці нашага стагоддзя быў падзелены на **„рэзкі“** і распрададзены сялянам. След гэтага падзелу адчуваецца і ў некаторых мясцовых назвах палеткаў і ўрочышчаў: **Клеткі, Сярэдні Рэзкі, Островок, Мочыбаба, Льніска, Вэрэсовіска.** Набывалі гэтыя „рэзкі“ і пасяліліся тут не толькі мясцовыя сяляне, але і людзі з Асноўкі з-пад Цеханоўца, Граннага з-пад Драгічына, Менжаніна з-за Буга і далейшых мяс-

(Працяг на стар. 3)

## Праз тыдзень у „Ніве“

**У „Сяржана“ ● Ад Віслы да Одры ● Бывай, Сібір — да сустрэчы, Сібір! ● Ой, ложо, ложо, хто на тобе ляжа? ● Слова аб беларускай літаратурнай крытыцы ● Рэкардсмены з вёскі Аўгустова ● Гараскоп ● Весткі з Бельска, Навасёлкаў, Саколкі, Гайнаўкі, Дубіч Царк., Орлі, Вярстка, Пянькоў, Дубяжына, Ласінкі, Крывяціч і інш. ● Песня „Hej, dziewczyno, powiedz mi, gdzie twych oczu ogień”.**

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

### У БЕЛАСТОЦКІМ ПАВЕЦЕ...

...дзейнічае 96 гурткоў ЛЗС, якія згуртоўваюць 4372 члены, у тым ліку 817 дзяўчат. Найлепшых вынікаў у спорце дабіліся ЛЗС-аўцы ў гмінах Харошча, Дабжынева, Юхновец, Супрасль, Васількоў і Засцянкі. Тут, як рэдка яшчэ дзе, улады зацікаўлены развіццём вясковага спорту, разумеюць фінансавыя патрэбы ЛЗС-аўскіх гурткоў, будуюць спартыўныя пляцоўкі і аснашчаюць іх спартыўнымі прыладамі. Вось цяпер будуецца гмінны спартыўны цэнтр у Васількове.

Дзякуючы падтрымцы гмінных адміністрацыйных улад могуць пастаянна ўдасканальваць спартыўнае майстэрства спартсмены з Новага Александрова, Пянькоў, Студзянак і Дайлідаў Гурных. Цяпер у павеце пражывае значная колькасць таленавітых і ўжо вядомых удзельнікаў спаборніцтваў. Да такіх належаць перш за ўсё лёгкаатлеты Дануся Семянюк і Зэнан Панятоўскі. Дануся Семянюк заваявала на чэмпіянаце Польшчы чацвёртае месца ў бегу на 800 метраў. Яна бегае таксама на доўгіх дыстанцыях 1 500 і 3 000 метраў. Належыць да авангарда польскіх бегуноў. Член нацыянальнай дружыны.

### ... І НА САКОЛЬШЧЫНЕ...

існуе 70 гурткоў ЛЗС з 1815 членамі. Значнымі поспехамі на спартыўнай ніве зарэкамендавалі сябе ЛЗС-аўцы з Крынак, Карыціна, Саколкі, Шудзялава і Крукоўшчыны. Нараджаецца тут добры спартыўны азарт. Вядучыя галіны спорту — лёгкая атлетыка, сяткоўка і ў апошні час стральба з лука. Вялікую падтрымку для развіцця спорту аказваюць прадпрыемствы і некаторыя кааператывы. Найлепш выглядае справа ў Крынках. Тут неўзабаве будзе закончана пабудова гміннага спартыўнага цэнтра. Такія цэнтры ўзнікнуць таксама ў Янаве і Шудзялаве.

Найлепшымі спартсменкамі ЛЗС, якія дабіліся даволі вялікіх поспехаў у павеце, з'яўляюцца Барбара Пуцілоўская і Барбара Стэльмашак. Другая з іх займаецца ў другім класе Засаднічай сельскагаспадарчай школы ў Саколцы.

**Я. Цялушэцкі**

## ФАЛЬКЛОР

### ЛЮБОЎНАЯ




*Там за гаем, гаем, гаем зелененькім,*
*Там гарала дзеўчынэнька волікам чарненькім.*
*Там гарала дзеўчынэнька волікам чарненькім.*
*Гарала, гарала, тай не ўмее гукаці,*
*Тай паслала казачэнька на скрыпэчцы граці.*
*Тай паслала казачэнька на скрыпэчцы граці.*
*Казачэнько грае, очкамі маргае,*
*Чорт его бацька знае, чаго ён маргае.*
*Чорт его бацька знае, чаго ён маргае.*
*Чы на мае волы, а чы на каровы,*
*Чы на мое бело лічко, чы на чорны брові.*
*Чы на мое бело лічко, чы на чорны брові.*
*Ой, ні на коні, і ні на каровы,*
*А на мое бело лічко ды на чорны брові.*
*А на мое бело лічко ды на чорны брові.*
*Бо чорные брові вавек не зліняюць,*
*А сівые волы возьмуць паздыхаюць.*
*А сівые волы возьмуць паздыхаюць.*

Ад Марфы Дзянісік, 1905 года нараджэння, вёска Гураны Сакольскага павету, запісаў 4 кастрычніка 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## СУПОЛКА

На скраі лесу ў Пачапку (Сакольскі павет) раскінуліся будынкі некалькіх гаспадароў. Каля іх спаткалі мы смуглага, сярэдняга росту чалавека Яўгена Врублеўскага, які ў гэты нядзеляшні паабедзенны час толькі закончыў нязвыклую работу. Тхор забраўся ў куратнік, задушыў 18 курэй і напіўся крыві, але ўрэшце спакусіў яго спецыяльна падрыхтаваны для яго ласунак, і ён папаў на пастку. І тут закончыў ён сваё крывапіўчае жыццё. А прыгожая з яго шкурка пайшла на выраб. На панадворку Врублеўскага пры хлявах бачылі мы прыгожую вялікую кабылу сакольскай расы, якая быццам разумее размову гаспадара і на яго голас ідзе да рук і паслухмяна нахіляе галаў, каб налажыць на яе вобрудзь.

І распачалася ў нас гутарка аб конях, якія столькі соцень гадоў былі асноўнай цягавой сілай, а на гаспадарцы асноўнай жывёльнай „персонай", а цяпер трактар з прычэпай падарваў конскі аўтарытэт, і значэнне конскага роду значна панізілася. Яўген Врублеўскі расказвае, што ён ужо 4 гады спецыялізуецца ў гадоўлі жарабцоў, а кабыла гэта з'яўляецца зарадоваю маткаю. Гадоўля жарабцоў вельмі паплатная. Прадаюць іх ва ўзросце 2,5 года.

У 1973 г. на конскай аўкцыі ў Моньках узяў за жарабца 43 тыс. зл., а ў мінулым годзе 57 тыс. зл. Цяпер у яго два жарабцы, аднаму 2 гады, а другому 1 год. За іх, кажа гаспадар, грошай будзе яшчэ больш, бо жарабцы сакольскай расы маюць сусветную славу, падаражэлі і прадаюцца за граніцу. За добрую гадоўлю жарабцоў атрымоўвае ён кожны год грашовую прэмію, а ў мінулым годзе быў яшчэ ўзнагароджаны Залатым медалем аб'яднання гадоўцаў коней.

Врублеўскі, пяцідзесяцігадовы чалавек, жыве адзін і сам апрацоўвае шмат зямлі і корміць 4 штукі быдла, статак свіней і курэй. 12 га ворнай зямлі аднаму чалавеку цяжка было б абрабіць. І тут дапамагае ў яго гаспадаранні машынная суполка з суседам — Віктарам Хомчыкам, у якога 14 га ворнай зямлі і 4 га сенакосу. Супольна яны маюць трактар з поўным камплектам сельскагаспадарчых машын, супольна згодна працуюць, адзін другому дапамагаюць і паспяваюць гэтымі машынамі абрабіць не толькі сваю зямлю, але і людзям дапамагчы.

Калектыў Врублеўскі-Хомчык не мае толькі малацілкі і выкарыстоўвае да малацьбы машыну з суседняга СКР-у. Абодва гэтыя гаспадары купляюць больш як 15 тон мінеральных угнаенняў у год, супольна іх прывозяць, супольна іх рассяваюць. У выніку гэтага маюць высокія ўраджаі. І так, у мінулым годзе атрымалі яны з 1 га па 40



*Віктар Хомчык са сваёю жонкаю Галінаю.*

цэнтнераў аўса, па больш як 30 цэнтнераў жыта, па 250 цэнтнераў бульбы і па 80 цэнтнераў сена. А калі ўзяць пад увагу тое, што зямля там у асноўным V-VI катэгорыі, дык можна смела сказаць, што ўраджаі ў іх больш як задавальняючыя.

Віктару Хомчыку жывецца шмат лягчэй, бо і сам ён і жонка яшчэ маладыя, ды бацькі жывуць і памагаюць. Васьмідзесяцігадовы Платон Хомчык корміць 6 кароў, 6 цялят і каня, а жонка даглядае 12 свіней, 50 курэй, 7 гусей і 13 індыкоў; матка затое і каля пліты дапаможа нявестцы, і яйкі пазбірае, бо куры неяк раскідаюць іх па траве і па саломе, і пры многіх іншых хатніх работах шмат дапамагае.

У Хомчыкаў пануе належны парадак у хлявах. Маюць яны вокны. Сцены пабелены вапнай, добрыя загарадзі, ды вада з калодзежа пры дапамозе гідранта даведзена да хлявоў.

Калі селяніну добра, дык і дзяржава карысць мае немалую.

**Міхась Хмялеўскі**
**фота аўтара**



*Яўген Врублеўскі пры зарадовай кабыле, імя якой Мармуля.*

## БЕЛАВЕЖСКАЯ ЛЕГЕНДА

Што можна расказаць на двух старонках машынапісу пра месяц працы 29 мастакоў, што ўжо дзесяты раз прыязджалі ў Белавежу з усяе Польшчы і іншых краін?.. Тым больш, што даць ацэнку мастацкаму пленеру справа не лёгкая.

Адно несумненна: белавежскі пленер заваяваў ранг добрага, сапраўднага пленеру, як магніт прыцягваючага да сябе людзей не толькі дзякуючы дасканалым умовам побыту і добрай арганізацыі, але і легендай Белавежы, якая натхняе, фасцынуе, запаляняе. Бадай, няма ў Польшчы другога такога пленеру, на якім пад уплывам аднаго толькі стымула — пушчы — вылілася б на палатно столькі разнастайных думак і рэфлексій, столькі мастацкіх форм і стыляў...

Белавежскія пленеры маюць ужо сваё ядро: частка мастакоў (найбольш беластоцкіх) прыязджае сюды сістэматычна. Для іх творчы год быў бы нямыслімы без пушчы. Вось ужо другі раз была на пленеры сімпатычная Ліра Іноэ з далёкай Японіі. Паходзіць яна з сям'і такійскіх мастакоў, у якой ужо некалькі пакаленняў пануе культ пэндзля. Прыязджае сюды, бо ў Белавежы — „dobdze", і малюе, паволі і старанна, свае містэрныя, выпрацаваныя карціны. Хаця не відаць у іх канкрэтнага пейзажу, то сплёты ліній, колераў, адценняў даюць падставы меркаваць, што Белавежская пушча засела глыбока ў сэрцы Ліры. Нават калі не малявала, яе рукі ніколі не былі бясчынныя: яны ўвесь час рабілі нейкія дзіўныя, нетутэйшыя птушачкі з алюмініевай фолії або з каляровай паперы. Пасля раздавала ўсім, паясняючы: „Prezent!"

Частым удзельнікам белавежскіх пленераў бывае Барбара Ёншэр з Варшавы. Яе белавежскія пейзажы здзіўляюць ашчаднасцю колераў, дасканалым іх супастаўленнем. Пейзажы падпісаны проста: Барбара Ёншэр, і ў іх уся яна. Найчасцей прадстаўляюць яны змярканне, надыход ночы. Няшмат, бадай, знойдзецца адважных, якія патрапілі б з двух адценняў шэрага колеру стварыць на палатне такую гаму эмоцый. Вось зямля і неба,



*Удзельнікі X Белавежскага пленеру.*

яны амаль зліваюцца, яшчэ неба крыху яснейшае, але, здаецца, яшчэ толькі момант, а ўжо праз хвіліну яно зліецца з зямлёю, і ўсё паглыне чорная ноч...

Вынікі дзесятага пленеру можна назваць сапраўды плённымі. Аж 17 карцін намалявала Марыя Анто з Варшавы, добрыя карціны ўдаліся нашаму рэдакцыйнаму калегу Стэфану Рыбі, хаця змог ён прыехаць у Белавежу ўсяго на дзесяць дзён. Ежы Лянгевіч з Беластока намаляваў аж 11 карцін, хаця можна было б мець да іх пэўныя засцярогі. Бо ўсе яны — гэта амаль адна карціна, толькі пададзеная ў іншых колерах. Амаль на кожнай з іх прысутнічае нейкае стварэнне накшталт зубра і падобны фон.

Калі мы ўжо пры беластаччанах, дык проста немагчыма не адзначыць белавежскія пейзажы Мікалая Валкавыцкага, які вылучаецца сярод іншых тэхнікай і цікавай маніпуляцыяй колерамі. Яго пейзажы, традыцыйныя па зместу і сучасныя па форме, думаю, зацікавяць кожнага.

Аглядаючы ў Беластоку выстаўку прац, створаных у часе нядаўняга Белавежскага пленеру, мне падумалася: ці, арганізоўваючы выстаўку прац, можна сказаць рэпрэзентацыйнага юбілейнага пленеру, не варта было б рабіць нейкую селекцыю?.. Бо нашто ж паказваць тое, што выглядае амаль, як дзіцячыя спробы (а былі, на жаль, і такія!) і, далібог, на выстаўцы прац моладзі ў ліцэях няраз можна ўбачыць шмат лепшыя працы.

**Ада Чэчуга**
**фота Р. Сянько**

# Сэрдэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка!“**

Мне 18 год. Нядаўна я паступіла на работу і мяне выслалі на месячны курс. Спачатку было мне тут сумна, нікога не ведала. Але неўзабаве пачаў мной цікавіцца адзін малады чалавек. Прыемна з ім было гутарыць, раілася я з ім у розных справах, быў мілы і сімпатычны і стаў ён мне вельмі блізкім і дарагім, як ніхто да гэтай пары. Пад канец курса я даведалася, што ён жанаты і мае дзіця. Убачыла гэта ў яго пашпарце. Не пярэчыў, але гаварыў, што не кахае жонку, што жыццё з ёй ніяк не ладзіцца, а такой, як я, дзяўчыны ніколі яшчэ не спаткаў, што мяне кахае і будзе пісаць ды наведваць. І так мы расталіся. Я з нецярплівасцю чакаю ад яго весткі. Ужо мінула два месяцы і нічога не чуваць. І я адважылася сама да яго напісаць, але адказу няма. Дома нічога не гавару. Моцна перажываю, але баюся сказаць бацькам. Я Мірка (так ён завецца) вельмі кахаю і не ўяўляю далейшага жыцця без яго. Калі надалей будзе маўчаць, дык думаю паехаць да яго. Толькі хацела б яшчэ ад цябе атрымаць параду, як мне паступіць.

**Бася з Бельшчыны**

Бася! Занадта паверыла ты Мірку, яго прыгожым і ветлівым словам. Мае ён жонку і дзіця, а табой займаўся, пакуль быў на курсе. Паехаў да жонкі, да дзіцяці — і кончыліся яго сувязі з табой. Доказам, што не былі яго словы праўдзівыя, з'яўляецца хоць бы і тое, што многа табе абяцаў, а калі паехаў, дык забыўся аб усім. Аб сям'і табе таксама не казаў, пакуль сама не даведалася. А калі ўжо паставіла ты яго перад фактам, дык гаварыў так, як яму было выгадна. І хоць табе і крыўдна і цяжка, але пастарайся як найхутчэй забыць Мірка. Не ўмешвайся ў сям'ю, дзе Мірэк патрэбны не толькі жонцы, як муж, але дзіцяці як бацька. Больш бывай у кампаніі, старайся не думаць аб Мірку. Ты яшчэ вельмі маладая і напэўна сабе адпаведнага хлопца знойдзеш.

**„Сэрцайка“**

# Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Маці засталася адна на гаспадарцы. Дачка яе выйшла замуж і жыве на гаспадарцы мужа. Сыны ў горадзе і сельскай гаспадаркай не займаюцца. Маці хацела б сялібу з будынкамі пакінуць дзецям, якія пражываюць у горадзе, а зямлю аддаць дзяржаве за пенсію. Ці можа яна гэта зрабіць, а калі можа, то як? Асабліва, ці можа яна гэта зрабіць завяшчаннем?

АДКАЗ: Уласнасць сельскай нерухомай маёмасці можа быць перанесена на іншую асобу, калі яна мае кваліфікацыі для вядзення сельскай гаспадаркі. Дакументам, які сцвярджае кваліфікацыі, з'яўляецца пасведчанне аб заканчэнні сельскагаспадарчай школы.

Сяліба з будынкамі з'яўляецца часткай сельскай гаспадаркі, таму дзеці, якія пражываюць у горадзе, не маглі б атрымаць яе ані на аснове ўмовы з маці, ані на аснове завяшчання. Частку гаспадаркі можна было б набыць, калі б яна магла складаць гаспадарку 8 га. Напрыклад, калі б гаспадарка мела 16 га, можна прадаць 8 га. Можна таксама набыць частку гаспадаркі, калі б у прадаўца засталося 8 га, а набыўца меў сваю зямлю (напрыклад, прадавец мае 12 га, а набыўца 6. Ён мог бы дакупіць 4 га).

Можна збыць цэлую гаспадарку асобе, якая мае сельскагаспадарчыя кваліфікацыі. Можна таксама прадаць гаспадарку, пакідаючы сабе сялібу з будынкамі. Сяліба не можа быць большай ад 0,5 га. У гэтым выпадку сяліба перастане быць сельскай гаспадаркай, і ўласнік можа яе прадаць асобам, якія не маюць сельскагаспадарчых кваліфікацый, або запісаць завяшчаннем.

Калі ж зямля перадаецца дзяржаве за пенсію, то ўласніку пакідаецца ў карыстанне сяліба з будынкамі. Пры гэтым ён застаецца толькі ўласнікам будынкаў, якія можа прадаць, але без зямлі. Зямля пасля яго смерці пераходзіць на дзяржаву на аснове закону. Таму, калі б уласнік склаў завяшчанне і распарадзіўся гэтай зямлёй, наследнікі не атрымалі б на яе ўласнасці.

# Вер-не-вер

Чытачка А. Ц. з Беластока піша:
„Дарагая рэдакцыя!

Я заўважыла ў апошні час, што ў вашай газеце ў рубрыцы „Вер — не вер...“ паявіўся адказ чытачу, які пытаў у Астрона, што мог абазначаць сон, які яму прысніўся. Вырашыла звярнуцца да Астрона і я, бо мой сон мусіў нешта важнае абазначаць, толькі не ведаю: добрае ці дрэннае.

Я жыву ў Беластоку і працую на прадпрыемстве. Людзей у нас многа, і, зразумела, з усімі блізка знаёмым не будзеш. А вось прыснілася мне наша персанальная, з якой жа ніколі асабліва я не сябравала, а пры сустрэчы віталася толькі кіўком галавы. Была я быццам у яе хаце, у спальні. Але спальня гэтая была нейкая не сённяшняя: два велізарныя ложкі, накрытыя багатымі шаўковымі блакітнага колеру пакрываламі. Гэты шоўк дамінаваў над усім, і яго я запомніла найбольш выразна. Сон гэты прысніўся мне 10 студзеня“.

Дарагая чытачка! Ваш сон добры. Шоўк абазначае нейкую выгадную фінансавую аперацыю. Асоба, якая ў вашым сне была, г.зн. ваша персанальная, запэўніць Вам, калі не новую, лепш платную пасаду, дык прынамсі вышэйшую зарплату. Добра, што Вы запамяталі дзень, калі сон прысніўся. Сны, што сніліся ў гэты дзень, спраўджаюцца на працягу 30 дзён, хаця іх здзяйсненне праходзіць з немалымі клопатамі (нічога дзіўнага: напэўна ахвотных атрымаць аванс многа!)

**АСТРОН**

# Этнаграфічнае акенца



*Вёска Гарадняны Беластоцкага павет у.* *Фота Я. Цялушэцкага.*

# Куток практычных ведаў

ЯК ЦЯБЕ БАЧАЦЬ, ТАК ЦЯБЕ ПІШУЦЬ

## Як малявацца





У апошні час дзяўчаты часта малююцца такім чынам, каб твар выглядаў як „у лялькі“. Сапраўды такі спосаб малявання модны, і моладзь першая яго падхапіла. Спачатку дзяўчаты выскубалі сабе бровы, якія сталі тоненькія, як адна лінія. Аднак, не толькі гэта аперацыя робіць твар модным.

Паводле сённяшніх правіл, вочы павінны быць круглыя. Дасягаюць гэтага, тушуючы не толькі верхнія, але і ніжнія расніцы. Каляровую памаду для вачэй кладуць на ўсю верхнюю павеку ад пачатку расніц да брывёў, надаючы ёй такую форму, як паказана на здымку. Сёння не прымяняюць да павекаў чорнага тушу.

Вусны маюць форму сэрца. Гэта сэрца на верхняй губе можна падкрэсліць алоўкам. Колер губной памады: жывая чэрвень з невялікім бляскам.

Шчокі пакрыты ружам, але не так, як рабілася гэта раней (ружам пакрывалася шчака аж да скроні), але зусім інакш: невялікую колькасць ружу кладуць на сярэдзіне шчакі, далікатна разводзячы яго аж да носа.

Пры ўсім гэтым неабходна памятаць: твар „як у лялькі“ выглядае прыгожа ў жанчын маладых, маючых час на дакладны макіяж. Дазвольце ж карыстацца новай модай нашым дочкам, а мы крыху ўрэгулюем нашы бровы, выкінем перламутравую памаду і заменім яе на крыху больш жывы колер (але не надта цёмны) і падбярэм сабе памаду да вачэй спакойнага колеру.

**Сяброўка**

САКРАТ ЯНОВІЧ

# СЯРЭБРАНЫ ЯЗДОК

Пракрадаліся цераз дарогу, потым зноў...

Коўзаліся на ўтоптаных сцяжынках, што ад вёскі да вёскі; скакалі ў гушчы, за абочынамі. Дзядзька шкадаваў, што яна не ўмее пераскокваць з дрэва на дрэва. Тады напэўна загубілі б след за сабою, але і так някепска...

Глыбокай ноччу выбраліся яны з пушчы.

На ўскраіне — хата.

Ён паказаў:

— Гэта тут.

Зачыненая, пустая.

Стары нахіліўся пад вугал і дастаў адтуль досыць вялікі ключ, якім адамкнуў дзверы. У нос ударыў пах кажухоў і яшчэ чагосьці...

Сказаў ёй:

— Кладавіся на ложку, накрывайся кажухамі ды спі; адпачывай на здароўе, дзеўка. — Ён наблізіўся да акна і паставіў у ім венічак якогасьці зелля; прымасціў яго пасярэдзіне шыбы.

Сігнал, зразумела Грыгатовіч.

Пацвердзіў голас старога:

— Не чапай венічка ў акне. Я — дзеля знаку, разумееш, на які прыйдуць да цябе. Сама нікуды не выходзь і не паказвайся ў вакне, — памаўчаў. — Хлеб і вяндліна ў каморы.

Дадаў:

— Будзь ціха-ціха!

— Добра, — Марыя Грыгатовіч сказала голасам, якім гавораць да шанаванага бацькі.

— Ну, бывай, дзеўка. Да світання мне, разумееш, трэба вярнуцца дамоў, — ступіў да дзвярэй, каб пайсці.

— Шчаслівай дарогі вам!

— Дзякую, дзеўка.

Замкнуў хату.

Усяго некалькі разоў скрыпанулі крокі, як бы выпадкова, з-за няўважлівасці. Цішыня, што адусюль спазірала на Марылю, выдалася ёй несамавітым сном. Каб не спужацца, яна паглядзела здалёку ў пабялелую пляму акна: пайшоў снег.

„Якраз патрэбны снег. Якраз патрэбны!“ — думала.

Яе змарыў сон.

* ✻ *

Некалькі тыдняў назад Пронччык перажыў здзіўленне. У гэтым здзіўленні ягоным было шмат злосці на сябе за тое, што не адразу далася яму думка аб так простым ды бяспечным...

Ад хвалявання выйшаў ён на панадворак: за горла схапіў сцюдзёны вецер. Вёска таілася. Рэксік, ваяўнічае стварэнне, з паблажкай глядзеў на зайцоў у загуменні, на іх высокія са страху вушы. Зіхацела Вялікая Мядзведзіца.

Зорная ноч мігцела.

Сабака ўзяўся брахаць. Пронччык папоцемку мацаў бярвенне пад паветкаю, намагаючыся адчуць яго прыдатнасць да задуманага. Гарачыўся, ці з гэтага бярвення здолее выцясаць крыж ды так, каб ніхто з суседзяў не прыкмеціў таго. Дзе зрабіць гэта? І кудою будзе занесці яго да гасцінца, што за Верхлесам? Да дуба!

У нядзелю, пасля набажэнства, Вільдовіч казаў Пронччыку, што паліцыя пачынае распытваць пра іх двух. Не гаварыў, адкуль ведае аб тым. Растлумачыў толькі, каб ён болей не падыходзіў да яго пры людзях, а „Мужыцкую праўду“ будзе пакідаць яму ў дупле.

— Яшчэ хто возьме ды знойдзе яе там! — Пронччык нават падазрона паглядзеў на Вільдовіча.

— Дзе? — разгневаўся той. — У дупле сухога дуба? Не пляці!

Не загарэліся.

— Пане Вільдовіч! Вільдовіч, маю да вас справу... — шпарка падыходзіў сусед. Яму трэба было дроў.

Пронччык здагадаўся, чаго не паспеў сказаць Вільдовіч: сухога дуба ніхто не чэпіць. І не знойдзецца пранырлівы хлапчук, які адважыўся б лазіць па сухастоіне. Кажуць, павесіўся на ёй пан з Крынак!

Добра было б прымацаваць крыж на сухім дубе!

Бадай, тры дні Пронччык нібы папраўляў паветку, а ў сапраўднасці цясаў ён пад ёю крыж. Неяк вечарам хутка збіў яго, схаваў у мяшок ды закінуў на вышкі ў хляве, у снапы аўса.

Чакаў дрэннага надвор'я.

Неяк з другой нядзелі на панядзелак, у завіруху, спалохаўся б сусед Пронччыка, калі б угледзеў яго, як, з крыжам на плячах, кіраваўся ён у поле. Стары ўдавец Карусь, які потым, ў аўторак, паехаў у лес, казаў у вёсцы, што, везучы дровы з Дзеразінскага падбагонніка, бачыў на небе дух пана з Крынак, з крыжам...

Так з'явіўся крыж на дубе.

Пронччык быў пэўны, што зараз нават жандар Звярынскі не прыпыніцца ля гэтага смяротнага дрэва.

Крыж празвалі — Шыбенічны.

Ад той нядзелі, ад завірухі не ішоў снег. Сонца, хаця і нізка над лесам, свяціла па-веснавому.

Пронччык ведаў, што ў такую пагоду нельга ісці да дуба. Учора назнарок прыстаў ён па дарозе каля гэтай страшнай сухастоіны: ніякіх пазнакаў на ёй! Доўга папраўляў вупраж на кані; ад Барсуковіны чарнеў дым, над смалярняю.

Чамусьці трывожыла яго тое, што ўжо колькі дзён не відаць Вільдовіча, ад часу, калі перадаў яму звестку пра знак у вакне яго хаты. Глядзеў у бок лесу, быццам магчыма было разгледзець там няспешную постаць лесніка... Асляплялі адліжныя ільдзінкі снегу. У блясках на небакраі — нешта сумнае і адначасова таемнае. Здаецца вось, выходзяць незлічоныя сілы — з лясоў, з пералескаў ды з курганоў векавечных, з усіх бакоў, пабліскваючы зброяй у ваенным кроку, легіёны свабоды, выснёныя. Ідуць, яшчэ нябачаныя, усяго водбліск ад іх выбягае наперад, халодны і мужны, ад якога вочы набрынялі чаканнем, а цела, акалелае ад урачыстасці, знерухомела. Глуха, і бляск, толькі бляск, бляск!

* ✻ *

Адам Вільдовіч адамкнуў хату: прывыклыя да цемені вочы шукалі чалаве-

